**№ 1** Вільня — Люты — 1935 г. **Год I**



## ЗЬМЕСТ




УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На год 3 зл. Паўгоду 1,50 зл. Асобны нумар 30 гр.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. С.С. Міласердзя № 16а — 1.

Друкарня Каапэратывы Вытв.-Гандлёвай, Вільня, Троцка 7.

# КРЫГАЛОМ

БЕЛАРУСКІ ЛІТЭРАТУРНА-МАСТАЦКІ МЕСЯЧНІК

№ 1. Год I.

ВІЛЬНЯ,

Люты, 1935 г.


— Ня сьведамасьць акрэсьлівае жыцьцё, а соцыяльнае жыцьцё акреслівае сьведамасьць.

*К. Маркс.*

## Наш „Крыгалом“.

Ня гледзячы на голад, холад і жабрацтва — мы выпускаем сягоньня ў сьвет першы нумар беларускай незалежнай літэратурнай часопісі. Мы выдаем свой „Крыгалом“, бо выдаваць яго мусім. Змушае нас да гэтага — жыцьцё, здароўе, моладасьць і думка. Мы жывыя, здаровыя, маладыя і думаючыя. А чаму мы галодныя і босыя — гэта добра ведаем, як ведаем добра і тое, чаму сыты і абуты наш вораг. Зусім зразумела, якія мы, такой і ёсьць наша творчасьць — яна галодная і босая, бо галоднымі і босымі ёсьць нашыя бедныя працоўныя браты.

Выходзячы з галоднага і мазольнага нашага жыцьця, выходзячы з дыялектычнага мэтаду нашага думаньня, выходзячы з нашага матэрыялістычнага сьветапагляду — мы знаем толькі клясавую творчасьць. Усё, што выйдзе з пад нашага пяра, мусіць служыць справе вызваленьня нашае прыгнечанае клясы, нашых бедных працоўных братоў і нас саміх. Мы не разумеем жыцьця без змаганьня, мы не разумеем змаганьня без клясы. Клясавае змаганьне ёсьць для нас дзейнікам поступу культуры людзтва. Уся мінуўшчына чалавецтва ёсьць для нас ланцугом клясавых канфліктаў і змаганьня, а будучыня — зьнішчэньне клясаў перамогаю працоўных — мы марксісты.

Марксізм ёсьць навуковым соцыялізмам: іншыя адмены соцыялізму ёсьць толькі адвольнай індывідуалістычнай фантазыяй пачуцьцёўцаў і мляўкасьцю дробнага мяшчанства. У нашых мазгах і пачуцьцёх няма мейсца ўмоўнасьці кожнай магчымасьці: для нас абавязуючым ёсьць закон эканамічнага дзеяньня, гэтага абсалютнага дзейніка поступу. Усё нематэрыялістычнае ёсьць дла нас толькі нармальнаю надбудоўкаю, але толькі надбудоўкаю. Гэтакімі мы ёсьць і верым, што кожны думаючы беларус павінен быць такім, як мы.

Кожнаму нашаму чытачу будзе цяпер зразумелым, што для нас літэратурная творчасьць ня ёсьць „забаўкаю творчага духа“. Літэратурная творчасьць ёсьць для нас жыцьцём, а жыцьцё—змаганьнем. Літэратурная творчасьць ёсьць змаганьнем прыгнечанай працоўнай клясы. З гэтага боку глядзім мы на кожны літэратурна-мастацкі твор, з гэтага боку мы і ацэніваем яго: чым ён ёсьць лепшым аружжам у змаганьні за вызваленьне работнікаў і сялян, тым ён ёсьпь цаннейшым. Іншай меры і ацэнкі мы ня знаем. Каб літэратурна-мастацкі твор паслужыў вострым аружжам у клясавым змаганьні, ён мусіць быць добра апрацаваным: ніводнай пустой фразы, ніводнага пустога слова і ніводнага фальшывага тону — усё мусіць быць суцэльным, вострым і гучным. Форма і зьмест павінны быць зьліты ў адно, а ідэяй зьместу мусіць быць жыцьцё—змаганьне. Усё гэта будзе толькі тагды, калі літэратурны працаўнік ня будзе толькі артыстам на сцэне пролетарскае літэратуры, але калі ён сам станецца змагаром у першай лініі. Мы ня знаем літэратурных зоркаў. Зоркай ёсьць для нас колектыў, а кіраўнікам — пролетарыят.

Месяц таму пачалі мы зьбіраць ахвяры на выданьне першага нумару „Крыгалому“. Падпісныя лісты, якія ляжаць прад нашымі вачыма, ёсьць жывым і радасным доказам міжнароднай солідарнасьці працоўных. Гэтыя дзесяць і дваццаць грашовыя падпіскі, гэтыя беларускія, польскія і жыдоўскія прозьвішчы беднае студэнскае моладзі — гэта вялікая сіла супольнага змаганьня. Гэты творчы саюз беднаты ёсьць залогам будучае перамогі. Гэтыя падпісныя лісты захаваем, як сьвядоцтва нашага супольнага жыцьця-змаганьня.

Усім ім сягоньня шчыра дзякуем.

Пасылаючы „Крыгалом“ нашым чытачам, зьвяртаемся, перадусім, да сяброў песьняроў і пісьменьнікаў з заклікам:

Сябры! Усе ў „Крыгалом“ з сваімі творамі. Не давайце ворагу хваліцца вашымі творамі на бачынах ягонай прэсы. Усе ў свой „Крыгалом“!

Пачынаючым літэратурным працаўнікам будзем служыць тварыскаю радаю і навукаю. Усіх нашых чытачоў просім памагчы нам прысыланьнем падпіскі і зьбіраньнем ахвяраў. Толькі помач чытачоў пазволіць нам выдаваць нашую часопісь кожны месяц. Памагайце нам і не забывайце, што гэтым памагаеце сабе і ўсей працоўнай Заходняй Беларусі.

РЭДАКЦЫЯ.

Рэдакцыя „**Крыгалому**“ ня мае свaёга памешканьня. На час зімы прытуліў нас у сваёй кватэры віленскі работнік, Мітрафан Кэпэль — стары і шырока-ведамы працаўнік на ніве вызваленьня беларускага працоўнага народу. Усю карэспандэнцыю, падпіску і ахвяры просім прысылаць на наступны адрэс: **Jerzy Kepel, Wilno, ulica S.S. Miłosierdzia 16a—1**.

---

Вызваленьне працоўных — мусіць быць дзелам саміх працоўных.

*К. Маркс.*

---

Максім Танк

# Сфінкс

I

Як воды прадвечнага Нілу, вякі
бязследна і ціха у даль праплылі.
Пляменяў, народаў сьляды на зямлі
пустыні гарачай зацёрлі пяскі.

А сфінкс ўсё стаіць і глядзіць на Усход,
на путы, што нёс спрацаваны народ,
на гора, што вечна, як шэры туман,
зямлю паланіла, на зор караван —
глядзіць, на крыштальны іх ціхі паход.

II

Раз чуў сфінкс з паўночы гіганта удар
і чуў як разьбіты ланцуг упадаў,
і бачыў, як вецер ў далі калыхаў,
у поўнач нямую сусьветны пажар...
І з радасьці сьлёзы з гранітных вачэй
каціліс, спадалі адна за аднэй;
як зораў крыштальных плылі караван,
і толькі гарачы, пад дзень, ураган
абцёр іх пяшчанай рукою сваей...

Спакойна заснула пустынная даль
і неба далёкага сіняя гладзь.
Адны толькі зоры дрыжаць і мігцяць,
Адбіўшыся ў Ніле між пены і хваль...
А сфінкс ўсё стаіць і глядзіць на Усход
і шэпча пустыні: пра новы паход,
пра тых, што усталі з вяковых кайдан,
пра тых што і палі ў змаганьні ад ран,
ў змаганьні за Праўду,
за Волю, Народ...

# Першы сьнег

Сьвісток разбудзіў нас, яшчэ было цёмна.
Заляскалі дзьверы і „апэль“ прайшоў.
Гудкі адазваліся хрыпла, няроўна,
Пад звон піл сталёвых, блізкіх тартакоў.

І толькі дзень шэры к нам глянуў за краты:
у вокны стучаліся ўжо вераб'і,
чырыкалі злосна чагосьці заўзята,
спрачаліся можа за крошкі сваі.

Не! сяньня нямала было ў іх навінак;
усю ноч злосны вецер ганяў іх з пад стрэх:
помойныя ямы, дарог каляіны,
і брук і бульвары пакрыў белы сьнег.

А там, дзесь далёка, марозам убраны,
ў сцюдзёныя зоры, стары, медны бор;
сасна каля сосны стаяць веліканы,
глядзяць у застыўшае люстра вазёр.

На вокнах маленькіх, скрывіўшыхся хатак
з сцюдзёных васеньніх пакінутых сьлёз,
далёкія вобразы: муры і краты
малюе з завеяй начамі мароз...

А сьнегам глыбокім барозны пакрыла,
навеіла гурбы на крайнім шнурку...
і доўга яшчэ вераб'і гаварылі,
чырыкалі штось, на сваім языку...

# Этап

Вагон калыша. Думкі, дождж
безперарыўна ў шыбы б'ецца...
на струнах рэльс цягнік і ноч,
этап, ды мокры, чорны вецер...

З імглы ўспамінаў устаюць
перад вачыма — лес і ніва,
а вецер лёгка і шчасьліва
калыша колас, яе грудзь...

І места вуліцы і тлум,
якісь паход бурлівы, грозны;
безперарыўны топат, шум
штандараў, песьняў і адозваў.

І праз чырвоны фабрык дым
я чую сьмех вясны зялёны,
з далёкіх ніў, з радных загонаў,
што зазьвінеў пад шум машын...

Вагон калыша. Думкі, дождж
безперарыўна ў шыбы б'ецца...
на струнах рэльс: цягнік і ноч,
этап, ды чорны, мокры вецер...

---

**Фр. Грышкевіч**

## Іскры залатыя

Мы вышлі на шлях, што ня знаў павароту,
Шлях вечнага слова — Упярод;
І кінуліcь ў бой праціў зьдзеку і гнёту
За родны, мазольны народ.

Іскры залатыя
З нашай кузьні б'юць,
Бо ў ёй маладыя
Кавалі куюць...
Гэй галосным рэхам
Молат разьбівай,
Каб чырвоным сьмехам
Засьмяяўся край.

Мы вышлі на шлях, што ня знаў павароту,
Шлях вечнага слова — Упярод;
Апорай для нашай вызвольнай работы
Ёсьць родны, мазольны народ.

Іскры залатыя
З нашай кузьні б'юць,
Бо ў ёй маладыя
Кавалі куюць...
Гэй галосным рэхам
Молат разьбівай,
Каб чырвоным сьмехам
Засьмяяўся край.

Мы вышлі на шлях, што ня знаў паражэньня,
Шлях вечных, жывых перамог;
І кінуліcь ў бой, каб ізноў пакаленьня
Запрэгч у ярмо зьдзек ня мог

Іскры залатыя
З нашай кузьні бьюць,
Бо ў ёй маладыя
Кавалі куюць...
Гэй галосным рэхам
Молат разьбівай,
Каб чырвоным сьмехам
Засьмяяўся край.

## Эпістоля

Кожна слова, кожна думка й кожны чын
Мусяць быць із сталі ўкуты,
Бо няволі нашай путы
Не ржавеюць, а блішчаць...
Нам няможна адступаць,
Нам няможна бараніцца;
Ў абароне наша сьмерць,
Мусім толькі узмацніцца
Й наступаць, наступаць,
Каб ня ўмерць...
Хто там сьніць аб абароне?
Абарону знае раб
Без надзеі.
Не рабы мы й не ў палоне,
Мы на фронце бойкі клясаў
І народаў;
Нашых масаў
Вораг сілай не уйме;
Мы ў турме,
З якой бура дах дзярэ...
Нам няможна адступаць,
Нам ня можна бараніцца;
Ў абароне наша сьмерць,
Мусім толькі узмацніцца
Й наступаць, наступаць,
Каб ня ўмерць...

## Ніколі не любіў...

Ніколі не любіў тваіх кутоў заклятых,
Мая, забіта зьдзекам Беларусь;
І не на покуць цёмны і запечак хаты
Ніколі не маліўся й не малюсь:
Не дамавік з запечка й не Хрыстос распяты
Цябе ўлілі ў маю кроў, Беларусь...
А толькі тваё гора й зьдзекі над табою
Зрадзіліcь разам з кроўю й думкаю маёю.

Адна гісторыя тваіх захрыпшых стогнаў,
Тваіх адбітых голадам мазгоў;
Ты юрадзіва й гола, Беларусь Заходня,
Праплакала жыцьцё пад сьвірнамі паноў:
Вярыгі мук на косьцях тваіх рабскіх бёдраў
Сьпісалі верна хроніку гадоў;
Ты не у граматах, не ў бібліі Скарыны;
Твая гісторыя у акце тваей сьпіны.

Замала клясьць і выць, бо нат' праклён Манфрэда
Для подлых лёрдаў толькі сьмехам быў;
Замала ненавідзець і штодзень ў суседа
Казаць аб дэмане, як дэман мсьціў...
Пакіньце казкі — казка ёсьць мастацтвам дзеда,
А нашым дзелам ёсьць дняўны прызыў,
Прызыў на фронт і ў бой за Беларусь кахану,
Абмыты, сыту, сьветлу й трактарам з'арану.

---

ЮРЫ КЭПЭЛЬ

# Сторож камяніцы № 2424.

Панураю васеньняю раніцаю, калі ўся сям'я сядзела пры сьнеданьні, бацька сказаў яму:

— Заўтра пойдзеш у горад на службу. Наш сваяк бярэ цябе на помач.

Маці, загарованая малая кабеціна, хмура глянула на мужа.

— Можа пачакаем крыху, можа надарыцца нешта лепшае.

— Не. Ужо час. Мусіць мага хутчэй станавіцца на ногі. Для ўсіх зямлі і гаспадаркі ня хопіць — адазваўся бацька і павёў глыбока запаўшымі пад калматымі бровамі вачыма.

У шэрай, заношанай сьвітцы, з сівавай барадою, жаўтаватымі ад табачнага дыму вусамі, з амаль лысым, пакрытым бронзавай скурай чэрапам, з панурым паглядам, ён сам быў падобны да галадамора. Сказаў і палажыў на рэмя сына сваю мазалістую, закарузлую, з грубымі капцюрамі і напружана - сіняватымі жыламі далоню.

— Калі ёсьць магчымасьць. то няма чаго чакаць. А то галодная сьмерць глядзіць нам усім у вочы.

Неяк цямней зрабілася ў каморы з двома ваконцамі, праз адзіную шыбу каторых заглядала дажджлівае надворра. Рашуча пацьверджаючы бацькіны словы, удэрыў у патрэскаўшыся бярвеньні сьцен, затрос саламянай страхой, стукнуў дашчатымі дзьвярыма, рвануў шмяцьцё, каторым былі заткнуты вокны і паляцеў далей васеньні вецер. Спужаўся відаць бяды, каторая угрызлася жалезным зубам у бедны мужыцкі скарб і ў бледныя твары, абсеўшай на адвечных лавах кругом стала, сям'і малазямельніка.

— Глянь яго, як гуляе. Мусіць зацягне на цэлы тыдзень. Да капусты ані падступіцца — як рэха адазвалася маці.

Малая, шустрая, гадоў дванаццаць дзяўчынка хацела нешта сказаць, адчыніла вусны, але, глянуўшы на бацьку, спынілася і пачала завіхацца каля малодшых братка і сястрычкі. Было ціха і цёмна. Усе елі. Пастуківалі лыжкі аб гліняную місу, але сківіцы неяк працавалі вальней, быццам іх сьціскала нейкая балючая сударга. Вочы ўсіх былі скіраваны на бальшуна, лёс каторага прад хвілінаю вырашыў бацька. Бальшун, хлапец гадоў дваццаці, у часе гутаркі бацькоў не спыняўся ў ежы; еў далей маўкліва, паволі жуючы, як стары. Зямлісты твар, пахілыя плечы, вузкія грудзі, у каторых білася дзіўнымі перабоямі маладое сэрца, сьведчылі аб тым, што ён ужо даўно заняў належнае мейсца.

— Можа там выб'ецца ў людзі — вырвалася ў бацькі затаеная думка.

— Глянь на сваяка, ужо столькі гадоў на службе. Нават сваім на вёсцы грошы прысылае.

Маці толькі ўздыхнула і, палажыўшы дзераляную лыжку на місу, устала і пайшла да печы. Сын моўчкі еў далей. Нічога новага не здарылася. Працаваў ён з малых гадоў, як вол: тут і там тое самае будзе. Можа нават быць горай, бо сярод чужых людзей. Гэткія думкі прабягалі яму праз галаву. Праўда, і ў хаце апракудзіла праклятае жыцьцё. Ледзь палажыўся, а ужо сьвітае. Аднак тут усе свае: падняўшы галаву ўважна глянуў ён на блізкія, мілыя твары бацькоў, сястрычак, меншага брата і на цёмную, непрытульную хату.

— Трэба будзе аднаму цяпер зноў гараваці. Ды і сілы ня тыя. Добрая з цябе сынку помач, але і аб малодшых трэба падумаць. Паўтары дзесяціны, каня і каровы на ўсіх не падзеліш. Там у горадзе сам станеш чалавекам, можа нам старым і ім будзеш падмогаю — голас бацькі дрыжэў бадзёраю ноткаю.

Васеньняе сонца прабілася праз прорву ў хмарах, разьдзёртых моцным подзьмухам васеньняга віхру, мітуснулася праз прасторы праменнымі патокамі і снапом касуляў, залатым успыхам глянула праз адзіную шыбку ў цёмную хату і яркаю плямаю ўпала на гліняную падлогу каля ног сядзеўшай у шэрай цені сям'і.

Быццам неба павесіла сьветлую надзею на іскрыстых, рэючых у неспакойным віраваньні пылінках, укінутага праз ваконца сонечнага струменя праменьняў.

Па схудалым, прадчасна зьвяўшым твары вясковай жанчыны, скацілаля цяжкая, набалеўшая матчына сьляза.

Дарога ад глухой беларускай вёскі ў далёкае места засыпала ногі пяскамі, вязіла балотам прасёлкавых дарожак, ласкатала шчэбнем зьмяняўшайся па бязконцым фаляваньні і паваротах сашы. Побач віліся насыпы чыгункі. Часамі выныраў з-за лесу цягнік. з шумам. дудзеньнем рэскаючых колаў, пырхаў параю і зьнікаў хаваючыся, як вужака, за гарою. Толькі доўга вісеў над лесам беласавымі звалямі дым паравоза, а ногі йдучага чалавека прыставалі ад болю на цярністай дарозе.

Крок за крокам зьбліжалася места. Прыемна было ступіць на гладкія хадніка, на песьцючы стопы асфальт, на храпаватую паверхню, выложаных гранітнаю косткаю роўна брукованых вуліц, на каторых зьвінеў, струмяніўся халерычнапрысьпешаным тэмпам рух.

Як васеньні туман павісьлі гдзесь за ім імглістыя ўспаміны шумячых лясоў, хвалюючых ніваў і снуючага павoлі сялянскага люду.

Места пажорла сына, надзею сям'і. Места закружыла яго ў шалёпым віры бягучага стамільна за хлебам жыцьця. Места дало зьмесу ягоных перажываньняў новую форму, але пакінула ад вечны сэнс — бязупыннай і бязлітаснай працы за хлеб. Зямляк яго быў сторажам і новапрыбыўшаму трэ' было пяць год быць яго памоцнікам. Акуратна, што месяц пасылаў ён на вёску праз гэты час падмогу. Спаўнялася надзея бацькі. І нарэшце пачаў тварыць свае новае жыцьцё. Ажаніўся з дачкой земляка і па сьмерці старога, як спадак, затрымаў яго мейсца ў пяціпаверхавай камяніцы № 2424, на найпрыгажэйшай і багацейшай вуліцы вялікага места. Атрымаў і ква-

тэру з аднаго пакою, з вокнамі напалову ніжэй паверхні вулічнага хадніка.

Мятла не вінтоўка, каторая забівае людзей адразу, даючы ў замен жыцьця—раптоўнасьць ягонай страты. Забойца жыў і жыць будзе на кошт другіх, хаця й не па сваей волі.

Мятла сама цябе высмакча, а людзі, тыя самыя, дадуць табе грошы на далейшае жабрачагалоднае карыстаньне з рэшты ўсьцяж карацеючага жыцьця. Сьцеражыцеся мятлы, жыцьцё стоража, найміта, горай сабачага. Стораж камяніцы № 2424 бязтварная істота, ён не беларус, не паляк, не украінец, ён не селянін, ён не работнік, ён толькі стораж камяніцы № 2424, VI паліцэйскага кварталу.

Зноў паляцеў час, як у прорву. Дзесяцьі год адпіраў і запіраў браму; чысьціў, падмятаў, падбіраў, падліваў, бегаў з прыказамі, мэльдаваў і зноў падмятаў. Бяспынная праца засланіла яму сьвет. Жонка, мілая і нічога сабе каліс кабеціна, парадкавала на ўсіх пяці паверхах, а перадусім памешканьне ўласьніцы камяніцы.

Уласьніца была старой засушанай дзевай, няведама каторы год дырэктаркай дзявочага інстытуту, старшынёй таварыства апекі над жывёлінай і пачэснай сяброўкай многіх філянтрапійных таварыстваў. Займала яна цэлы фронт першага паверху.

У вольных хвілінах чульна апекавалася малым пудлем і снавала па многіх пакоях свайго памешканьня, даглядаючы цэнных памятнікавых мэбляў. Разам з адміністратарам моцна трымала ў руках усё насельніцтва пяціпаверхавай камяніцы і хутка выкідала неплацільнікаў, дзякуючы сваім знаёмствам і уплывам пры помачы суду. Вельмі ашчадная, яна ўсьцяж адкладала на чорны дзень у заграпічныя банкі.

Да паслугі мела пакаёўку, кухарку і старажыху да ўсіх работ. Старажыха, бярэменная штогод, з часам вельмі ўпала на сілах і апусьцілася. Мучыла яе нейкая хвароба. Можа гэта была памятка па частых адведзінах з пратаньнем кавалерскіх пакояў на ўсіх пяці паверхах.

Дзеці радзіліся, каб памерці ў вільгаці з недакормкі, ня могучы дашукацца малака ў зьвянуўшых, высахшых грудзях маткі, каторая насіла ў сабе пачатак іх сьмерці. Толькі апошні хлапец здабыў сабе жыцьцё і то прыпадкова.

Ад гэтага і ўсё пачалося. Прыбіраючы ў пакоі, старажыха, каторая была ўжо у сёмым месяцы, пабіла, няхочучы, шкляную вазу. Гаспадыня, пачуўшы звон сыпаўшыхся асколкаў шкла, выбегла з свайго пакою і накінулася на бедную бабу.

— Вон, каб твайго духу тут не было, дабро маё нішчыш, не пільнуеш, жабракоў мне разводзіш. Вон зараз-жа, вон — крычэла раз'юшаная, наступаючы на перапужаную да сьмерці старажыху. Тая ледзь-ледзь выйшла на сходы. — Мужыка твайго таксама выкіну, бо пашаны да мяне ня чуе, з падалба, як воўк, выглядае — падвізгівала наступаючы.

І тут споўнілася прадзначаньне здаўна надломанай першай ступені кухонных сходаў; яна трэснула, пакруцілася і кабеціна, войкнуўшы, кумільгом пакацілася па сходах у ніз. Бязсільныя рукі хапаліся за брудныя сьлізлівыя дошкі. Галава, твар удараліся балюча аб сьцяну, аб выступы сходаў. Усё шыбчэй і шыбчэй кацілася, аж ударылася аб ніжнюю сьцяну. Боль страшэнны разьдзёр нутро, падкурчыў сударгаю ногі, аж хруснулі выверненыя косьці, і выпраставаў узад цела. Разчапярэжаныя пальцы далоняў драпалі падлогу, вочы закаціліся пад лоб, а вусны выкінулі даўгі праразьлівы крык-выцьцё раненага зьвера. Але нешта не магло стацца. Усе дзьверы паадчыняліся. Беглі людзі. Гаспадыня са страхам пабегла назад у пакоі. А ў сьлед ёй ляцелі ўсьцяж галасьнейшыя крыкі быўшае ў канвульсыях ад страшэннага творчага болю кабеціны. У шпіталі старажыху апэравалі і сямімесячнае дзіця пабачыла сьвет у сьветлай салі; абтуленае і чыста вымытае было акружана добраю лекарскаю апекаю. Стары прафэсар, здабыўшы існаваньне для дзіцяці вельмі небясьпечнай, але ўдалай апэрацыяй над маткаю, загадаў дахтаром зьярнуць на яго асаблівую ўвагу і як дзіва паказываў студэнтам. Дзякуючы яму, дзіцё было бязплатна пакінена ў шпіталі на пяць месяцаў. Дзіцё, хлапец, на дзіва ўсім добра гадавалася. Прафэсар гаварыў слухачам:

— Першы выпадак у маёй практыцы, што неданосак гэтак нармальна разьвіваецца. Магчыма, што й хлапчынё хацела адбіць доўга трывалы пост сваіх прадчасна памёршых братоў. Праца і жыцьцё кіпела ў ім з патройнай моцай.

Сьмерць маткі па апэрацыі мала каго ўзварушыла. Была-ж чалавекам вельмі кволага камплекту.

Муж пахаваў нябошчыцу, заплаціў цэлую пэнсыю за паховіны духаўніку і магільшчыкам. Доўга стаяў над магілаю, але ня мог плакаць, бо забыўся. Чуў, што нешта здарылася, але ня мог гэтага адчуць у поўні і зразумець — Трэба прыйсьці і падмесьці — мільганула. У сутарэне зрабілася яшчэ цямней і непрытульней, нехапала жаночай гаспадарскай рукі. Холадна было спаць аднаму і боль што раз большы і вастрэйшы ахопліваў душу асірацеўшага. Праца не чакала. Трэба было аб ёй думаць.

Аднаго дня, а было гэта ўжо два месяцы па хаўтурох, праходзячы праз брамны праход, стораж пабачыў жыхарку з трэцяга паверху, каторая вяла за руку двух-гадовага хлапчука. Малы ўпіраўся, не хацеў ісьці, капрысіў і ўсьцяж адвяртаўся назад.

Казаў — тата, гдзе мама? хачу да мамачкі!

Вось тут стораж прыпомніў сабе радзіўшагася, ды выразанага з цела ягонай жонкі ў шпіталі дзіцё—сына.

У скалатаных грудзях прыгнечанага чалавека сэрца раптоўна застукала, забілася новым рытмам.

Апрануўшыся ў сьвяточную вопратку, спраўленую гэд дванаццаць таму, зазваніў ён у шпітальныя дзьверы.

— Да кого вы? — спытаўся адчыняючы фортку брамнік.

— Да каго? Да сына. — адказаў паволі, надумываючыся стораж — Але! Да сына. Адчыняй хутчэй!

Той толькі зьдзіўлена глянуў на нецярплівага і моўчкі адчыніў дзьверы.

З дзіўным пачуцьцём глядзеў бацька на ма-

лое дзіцятка ў белай кашулінцы, ляжачае ў калысцы. Асьцярожна з недаверрам дакрануўся да малай чырвонай лапкі. Раптам дзьве маленькія жменькі ўхапілі ягоны палец і моцна пацягнулі да бяззубага цмокаючага вуснамі роціка і шырака разчыненыя сінія вочкі глядзелі на яго і — зьдзеілася дзіва. Дзіцё, адкінуўшы галоўку на бок, засьмялялася і перабіраючы ножкамі залепятала ма-ма-ма.

Сторож задрыжэў пад навалай уражаньня — сыночку — схіліўся над калыскаю, узяў моцна рукамі дзіцё і прыціснуўшы да грудзёў пацалаваў трасучыміся быццам у ліхарадцы вуснамі.

Вярнуўся ў хаты. Як тут было чужа. У першы раз за многія гады прысеў самотны чалавек на ложку, каб падумаць. Думаў доўга і балюча. Успаміны пераваліваліся, як бурныя хмары. Вось вёска, родная хата, голад, бяда, памёршыя бацька і матка, дарога ў места, паняверка ў чужых, брат і сёстры на гаспадарцы доўга ня пішуць. Сьмерць жонкі балюча схапіла за сэрца. Сын неданосак і цяпер адзіноцтва. Ужо недалёка старасьць. Працаваць — сілы мала. Невясёлыя былі думкі, але блукаў і нейкі няясны прасьвет надзеі.

Сторож захварэў. Гэтага самага дня, як быў з адведзінамі ў сына, позна ўночы, калі выскачыў адчыніць браму запаз ьніўшымся жыхарам з трэцяга паверху, застудзіў ногі. Да самай раніцы біў яго сухі, балючы кашаль. Нешта рвалася й рвалася ў засушаных вузкіх грудзях, а галава пяклілася праклятымі думкамі.

Але сторажу ня можна хварэць, бо хлеб можна страціць, бо зараз-жа прыйдзе другі. Ледзь цягаючыся, ён усьцяж мусіў працаваць. Так прайшоў тыдзень. Вясна была ў расквеце. Гэтак гаварылі ўсе, каторыя былі за местам. У муры камяніц паветра было ўжо цяплейшае, але тым халаднейшай вільгацьцю дыхалі падвалы—логавы людзей пячорнікаў.

Падыходзіў Першы Травень. З вечара загадана было замкнуць на цэлы дзень уваходную браму, а як будуць паходы, нікога не ўпушчаць. Так было з году ў год на ўсіх рухлівых вуліцах. Што год у гэты дзень праходзілі міма большыя або меньшыя натоўпы людзей з песнямі і чырвонымі сьцягамі. Рухнула ўсялякая галадзьба, казалі фабрыканты гатовай вопраткі з другога паверху. Але старому было не да гэтага. Ды й наагул ён гэтым не асабліва цікавіўся. Гаварылі аб тым-сім і суседзі, шавец другой камяніцы, краўцы з фабрыкі вопраткі, каторыя гадзінамі чакалі на фабрыканта. У далёкай вёсцы людзі перашэптываліся аб нечым, што мае прыйсьці. Столькі год ён цяжка працуе, як вол, але ніхто да яго не прышоў, ня вытлумачыў дакладна. Дый цяпер, як сторож дому, ён павінен аб ўсім гэтым данасіць гаспадыні і гдзе належыцца.

Але студэнтаў з пятага паверху і трох работнікаў з дабудоўкі забралі не з яго віны.

Гавораць, хай сабе гавораць, чорт з імі, абы ня чуў, ды ня ведаў.

— Служба сабачая, але данасіць не ў маім характары — адказываў ён на розныя заўвагі жонкі аб шматлікіх чутках, якія яна прыносіла з цэлай пяціпаверхавай камяніцы.

Але не адно пачутае запала ў мозг і прыталася.

Сягоньня, дрыгочучы ўвесь, як у трасцы, ледзь даваλокся ён адчыніць і зачыніць браму, ізноў кінуцца на бярлог і забыцца ў трывожным паўзабыцьці. Думкі яго зьмятусіліся ў гарачкавай дрэме: яму здавалася, што брамы тысячы камяніц адчыняюцца насустрэч зьменнай хвалюючай, як мора ў непагоду, людзкай масе, заліўшай усё навокал. Толькі ён у сваёй браме мусіць усьцяж падмятаць і падмятаць. Мятла прырасла яму да далоняў. Ды й не мятла і сама гаспадыня абкруцілася навокал яго і прыкавала да мейсца. А людзі йдуць міма, штосьці ужо робяць і ён хоча і баіцца спазьніцца. Да ягонага сэрца прыліпла аслізглая чорная піяўка, такая з халоднай крыніцы. Піць, піць вады, вырываецца з сьпечаных смагаю і патрэскаўшыхся ад жару вуснаў. Няма нікога каля самотнага чалавека. Толькі вышэй запыленных вакон тысячы ног у паходзе йдуць міма і міма, далей і далей.

Хворы падымаецца на ложку. Тупат тысячаў убіваецца ў прачуленыя вушы сьціхаючым рэхам.

— А я?! я?! — крычыць здушана і хрыпка. Вазьміце мяне, я ў людзі!

Прытаіўшыся ў кутох жуць глядзіць нябачнымі вачыма ў разшыраныя балючай розпачай зрэнкі хворага.

— Прэч, прэч ад мяне! Я нічога! — адмахіваецца рукой.

— Сторож, падмятаць! — крычыць гаспадыня.

— Але, але, трэба падмесьці, столькі сьмяцьця. Дзе мятла? А мятла ўжо у яго ў руках. Вялікая, добрая, якой яшчэ ніколі ён ня меў.

— Вымету на чыста. На заўсёды.

І ён мяце. У права, у лева мяце сьмяцьцё. З кожным замахам яму прыбывае сілы. Ён усьцяж мацнее. Ужо няма падвалу. Ён вырас у гару, як асілак, вышэй камяніцы. Горача пячэ вясьнянае сонца. У нізе сьмешныя хаткі.

— Не, гэта сьмяцьцё. Вымесьці, вымесьці ўсё на чыста, усё — прэч, крычыць ён і мяце, і мяце. Сыплюцца сьметнікі. Сыплюцца абломкі.

— Прэч з усімі, з камяніцамі, з старажамі. Пыл усьцяж большы і ўжо нічога не відаць. Гэтак горача, няма чым дыхаць, пот залівае вочы.

— Вымесьці, вымесьці — хрыпіць сторож, а водгульле яго крыку запаўняла ўсё навокал.

Ён падае і ляжыць бязсільна, а пад ім узрастае ўзвыш вялізнымі цяжарамі пяць паверхаў камяніцы, а ён стрымгалоў ляціць у ніз, у ніз, у глыб студні панадворку і ня можа спыніцца. Во, во, зусім разаб'ецца. Адчыняе вочы шырака, а перад ім вокны. Вялікія пяць вакон, быццам чорныя зубы насьмешлівага рагогучага зьвера пагражаючы бліснулі.

— Ты наш, наш! — Не! — зрываецца ён. З цемры ў куце высунуўся твар гаспадыні дому з зялёна-гарэўшымі вачыма старай, абшарпанай коткі.

— А хто будзе падмятаць, другі прыйдзе. Сын твой з голаду памрэ. Заслужыш, ён старажам будзе па табе.

— Ой, сыночку, сын мой адзіны. Бедная жонка, сяньня халодная, з заскаленымі зубамі, з парэзаным жыватом. Труп. Здрыгануўся ўвесь, скрыгануў зубамі ў нямым шале.

— Жонку забіла і сына хочаш: ня дам, ня дам! Схапіўся з ложка, высокі, худы, распалены, непрытомны.

— Стой, я цябе!

Холад цаглянае падлогі апрытомліваў яго.

— Гаспадыня, піяўка, заб'ю! — шаптаў ціха, працяжна і йшоў вагромны, страшны да дзьвярэй.

Па дзесяці сходках выбягае з падзямельля на панадворак. Грудзьдзі яго хапае ў свае абоймы штурмуючае вясьнянае паветра. Дрыжыць увесь адным імкненьнем, аднэю думкаю.

— Помсты! Помсты!

Вуліцаю наплываюць новыя гушчы, з плоймы горлаў вырываецца песьня-выклік:

— Дзе вораг схаваны?

— Тут, тут — крычыць непрытомны сторaж і адчыняе шырака фортку на вуліцу, на спатканьне ім.

Шэрыя масы залілі вуліцу; ходнікі сунуцца ўшыркі ад сьцяны да сьцяны ўздоўж замкнёных камяніц, адбіваючыся ўперад ад жэльбэтонных цэгляных муроў; над імі ўсхопніцкім усплескам калышуцца чырвоныя сьцягі.

І вось перад гэтым цягам, наплываючым у нястрыманным імкненьні ўперад, адчыняецца ў высокай каванай браме пяціпаверхавай камяніцы малая фортка. Выбягае самотны чалавек на залітыя сонцам тратуар. Сам страшны, раскалмачаны і разхрыстаны ў зрэбнай вопратцы і крычыць нешта дзіка, непрытомна.

Песьня трохі ціхне ў першых радах і чуваць крык:

— Сюды! на помач! забілі ворагі!

Также вольна, паважна, бязспынна суне ўвесь натоўп людзей у пяжарным расплесканым тоне. Вось пайшлі, мінулі; у вузкое жорала брамнага праходу з сыкам уліваецца бурлівы людзкі паток, але галоўная маса плыве далей у пустату бязлюдных вуліц і пляцаў. А за замкнёнымі каванымі брамамі прытаіўся гатовы да скоку азброены дзікі зьвер.

Уласьніца дому, пачуўшы на панадворку крыкі, выхілілася з прызвычаеньня з вакна з галосным крыкам:

— Выгнаць! Сторaж! і скамянела. На сярэдзіне панадворку стаяў сам сторaж, босы ў зрэбных палатняных портках, разхрыстаны і крычэў:

— Піяўка! Забойца! — і наказываў на гаспадыню рукою — чужым абдзёртым людзям, каторыя высовываліся з брамнага праходу.

— Божа, ратунку! — адкінулася назад, а ўсьлед ёй зазьвінела разьбітае шкло і гулка загрукацеў камень кінуты ўнутр пакояў.

Пяць паверхаў з трэскам і сьпехам адчынялі вокны і дзьверы. Усюды высоўваліся зацікаўленыя твары людзей. Выбягалі на балконы і пераходы.

— Марыся, Марыся, хутчэй у паліцыю! Заві на ратунак!

Бегала па задніх пакоях свайго памешканьня і дзёрла на сабе вопратку ў сьмяротнай трывозе апалеўшая гаспадыня.

— Бо, наш стары — кінуў студэнт з пятага паверху да суседкі мадысткі. Тая зрабіла яму вочка. — Так і трэба старой ведзьме.

— Ха, ха, ха, вось папалася наша пудзіла— задаволена рагатаў урадовец 14 ступені да свайёй жонкі.

Усе пяць паверхаў зусім трасьліся ад пацехаў і задаваленьня. Перахіліўшыся прагавіта глядзеў у ніз.

— Нарэшце! Нарэшце! Нарэшце!— ляцела ад вакна да вакна, ад балькона да балькона з вуснаў у вусны і ўсё ніжэй.

Сторaж камяніцы, узор ладу і парадку, апалеў.

Жаль вялізарны, боль і доўга стрымліваны бунт выбухлі ў ім са страшнай сілай, калі ён пабачыў у вакне твар гаспадыні, падобны да перапужанай морды гіены.

— Забіла жонку, жыцьцё маё высала, піяўка, гад! — вырваў з бруку камень і кінуў з сілаю, якой ніхто-б не спадзяваўся ў хворым целе. На ўсіх паверхах людзі шырэй адчынялі вокны і пахіліліся ніжэй. Зазьвінела шкло і даляцеў жалабны крык. — Паліцыя! Паліцыя! Ратунку!

— Глянь, паліцыю кліча — аж сялалі з уцехі ўсе дробныя чалавечкі пяціпаверхавай камяніцы.

— Во так! Валі яе! З нас усіх высмактывала кроў—крыкнуў зьбягаючы ўперад кравец з фабрыкі, заўсёды п'яны і некаму пагражаючы. За ім сунуліся іншыя зьмяшаўшыся з наплыўшымі з вуліцы людзьмі.

— Фу, як нясмачна. Відаць аднак, што час дасьпявае, калі і такія зразумелі праўду — задумлёна паківаў галовою рэдактар лібэральна-радыкальнае часопісі. Ен займаў на трэцім паверсе памешканьне з чатырох пакояў, з жонкай і дзіцём. Зачыніўшы шчыльна вакно, апусьціў штору і тонкаю рукою, з доўгімі расовымі пальцамі, паправіў на сабе апаўшую, шоўкавую піжаму. Падобны да бязполае істоты, палажыўся зноў на канэтку. Запаліўшы сьвятло пад залёным абажурчыкам, чытаў далей томік Каўцкага, апраўлены ў вясковае палатно.

На панадворку запахла нечым новым. Тры ніжнія паверхі пачалі хутка зачыняць вокны, завесіўшы іх шторамі. З глухім візгам ападалі жалезныя жэлюзі.

— Вось яна салідарнасьць. Біць буржуяў!— крыкнуў майстар з паравазоўні, кідаючыся на большую групу паноў, каторыя зыйшлі на ніз з мэтай інтэрвэнцыі. Адзін з іх смаргануў яго кіём па галаве. Азьвярэлы майстар схапіў яго за грудзі. За ім рынуліся іншыя. Закіпела агульная бойка. Гвалт, крыкі, енкі ляцелі са дна панадворку ў яснае вясеньняе неба. З бразгам і звонам разсыпаліся шыбы. Трашчэлі дошкі. Пяць вакон першага паверху глянулі вонак пусткаю бяззубых старэчых вуснаў. А пад імі вадзіліся людзі. Біліся, рвалі, дзёрлі вопратку і цела. Сыпаліся градам на галавы ў шыбы камяньні. Доўга, нэрвовымі перабоямі зьвінелі тэлефоны.

— Гальлё, ратунку! Гальлё, паліцыя! Гальлё, хутчэй, помач, збунтаваліся. Б'юць, забіваюць — кідалі ў тэлефонныя трубкі бледныя вусны.

Вуліцаю праходзіла што раз менш людзей, але перад камяніцаю згрудзіўся вялізарны натоўп. Усе пхнуліся ў сярэдзіну.

— Нашых б'юць! Хто? Каго? Даўно час! — падалі словы з права і лева. Праз вуліцы ў шалёным газе, трыківаючы алярмовымі трубкамі, пёрлі тры самаходы з дыжурнай паліцэйскай брыгадай. Прыехалі. Стоп; адно, другое, трэцяе. Быццам на пажар, як пружына, звольненая з усьціску выбегла з нугры крытых машын два ланцугі сініх постацяў.

— Разыйдзіся! — Адціснулі людзей ад брамы. Але фортку нельга было адчыніць. З нутра камяніцы разлягаліся штораз галасьнейшыя крыкі.

— Выламаць! — загадаў начальнік. Некалькі сініх постацяў павісла ўсім цяжарам на краты брамы. Добра каваная крата нават не пагнулася. Людзі за ланцугом паліцыі пачалі сьмяяцца:

— А ну. Кусі!

Новы шум, яшчэ галасьнейшы, вырваўся з нутра. Суха зьвякнулі рэвальвэрныя стрэлы. Людзі рынулі з панадворка ў браму. Затрыманыя і прыпёртыя да кратаў, затрымаліся.

— Страляць! — загудзелі навакол.

Натоўп і паліцыя шырокім веярам адкінуліся ад брамы на бакі. Праз краты высоўваліся рукі і галавы, якія крычэлі:

— Ратунку!

Стрэлы ўрываныя зачасьцілі. І тут і там дыханула пранізываючаю пагрозаю сьмерць.

— Пане начальніку, праз маё памешканьне — выскачыў з бочных дзьвярэй фабрыкант. Сюды. Паліцыя рынулася за ім у сьлед. Застукалі хутка і зручна гумовыя кіі. Грозна ўдэрылі прыклады стрэльбаў у жывое цела. За дзесяць мінут усё было скончана. Людзі з натоўпу былі сагнаны пад скляпеньне брамы. Асабліва буйным—налажылі ланцужкі і некалькі паноў, што бараніліся на сходах першага паверху, зыйшлі на ніз. Грубы, пузаты, ледзь парушаючыся ад клушчу вайсковы на эмэрытуры, каторы кіраваў абаронай, заявіў начальніку:

— Я страляў у ўласнай абароне; вось рэвальвэр. Абярнуўшыся ў бок арыштаваных, кінуў з ненавісьцю:

— Каб роту маіх хлапцоў!

Іншыя паны з ажыўленьнем расказывалі аб бойцы і заапекаваліся сваімі пабітымі таварышамі, ляжачымі на панадворку. З енкам і плачам выбегалі панечкі, ламалі рукі, млелі:

— Збаўца наш! — кідаліся на шыю начальніка паліцыі.

Арыштаваныя стаялі моўчкі, панурымі паглядамі сачылі за паліцыяй, пераглядаліся з жалем.

— Я казаў, што ня трэба. Трэба арганізавана — сказаў грамчэй малады хлапец з чырвоным калочкам на рукаве.

Змоўкні, шчанё! — варкнуў майстар з паравазоўні. Без цябе ведаем, чаго мы лезьлі, але дзе ён — ляжыць вун забіты на панадворку. Палкоўнік страляў з вакна. Калі ён хацеў узбегчы да гаспадыні памешканьня.

— Забілі беднага — з жалем сказаў кравец, стары п'янюга. Гэта ён з гарачкі.

Браму адчынілі. І іх пачалі выводзіць групамі, чалавек па пятнаццаці. На вуліцы было пуста. Адзін за другім ад'яжджалі самаходы і ізноў вярталіся. Як пчаліны вулей гудзела ўся камяніца. Ізноў адсюль выглядалі людзкія галавы і відаць было постаці. Усе пяць паверхаў гудзелі і не маглі супакоіцца. На панадворак ня можна было выйсьці. Паліцыя не пушчала. Мела быць сьледзтва. Чакалі пракурора і камісыі.

На сярэдзіне панадворка, каля студні, ляжаў стораж з разьбітай галавою. Можа куля, можа камень палкоўніка, нязручна кінены, разьбілі яму чэрап і распырскалі мозг па бруку. Ляжаў, нязручна худы, раскінуты, у залітай крывёю зрэбнай кашулі, затоптаны бруднымі нагамі змагаўшыхся над ім таварышоў. Побач яго корчыліся яшчэ з чатыры-пяць постацяў, каля іх завіхалася абслуга ўжо падасьпеўшай хуткой помачы.

У нямым прыпадку гістэрычнага страху білася на руках пакаёўкі і кухаркі старая дзева—уласьніца дому.

Пяць вакон першага паверху насьмешліва глядзелі разьбітымі шыбамі на ляжачы ў супакойным безуладзьдзі труп чалавека.

Гарачае майскае сонца паднялося высака над дахамі закіпеўшага жыцьцём места. Ярка, з ласкаю, глянула і апусьцілася ў студню панадворка, дзе полымяста пабачыла сябе ў шырака адчыненых нярухома-рашучых вачох бунтарнага стоража камяніцы № 2424.

Уся гісторыя цывілізаванага грамадзянства ёсьць барацьбой клясаў. Французкія гісторыкі часу Рэстаўрацыі зналі гэта як найлепш і не забывалі аж датуль, пакуль на палітычнай сцэне не зьявіўся магільшчык буржуазіі — сучасны пролетарыят.

*Плеханов.*

Зьвязываць маральнасьць, аснованую на розуме і досьледзе, з містычнай, варожай розуму, аснованай на ўяве і аўторытэце рэлігіі, значыць толькі аслабляць маральную навуку і ўносіць у яе блытаніну.

*Гольбах.*

# Літэратурны фронт.

## РЭФЭРАТ М. МІЛЮЧАНКІ.

У мінулым школьным годзе ў аднэй з саляў віленскага унівэрсытэту беларуская студэнтка, Марыся Мілючанка, прачытала рэфэрат, з прычыны якога пішам гэтыя радкі. Тэма рэфэрату была: „Жанчына ў беларускай літэратуры". Пасьля рэфэрату прысутныя мяняліся сваімі думкамі, з якіх выявіліся два, характэрныя для нашага часу, погляды на асобу жанчыны агулам і беларускае жанчыны асобна. Асабліва цэнным у рэфэраце быў мэтад: Мілючанка пераказала слухачам жанчыну ў беларускай літэратуры языком і вобразамі літэратурных твораў. Гэты мэтад ёсьць цэнным ня толькі дзеля таго, што ён у літэратурнай крытыцы называецца безпасярэднім мэтадам, але перадусім дзеля таго, што ён выключае суб'ектывізм прэлегэнта ў аснове рэфэрату, а ягоныя погляды пераносіць у лік усіх другіх слухачоў. Пры безпасярэднім мэтадзе рэфэрату ёсьць даволі выгадным тое, што прэлегэнт ня можа нічога ўвагнаць у кляшчы сваёга погляду, а перадае літэратурную сапраўднасьць гэткаю, якою яна ёсьць. Гэты мэтад робіць погляд прэлегэнта ізалёвана самаадказным, а не рэфэратна-пераплецяным. Пры гэтым мэтадзе погляд прэлегэнта выказываецца заўсёды на канцы рэфэрату, а не раздрабляецца ў розных ягоных часьцінах. Рэфэрат Мілючанкі быў мэтадычна строга вытрыманым — гэта вялікі плюс. Дыскусыя была цэннаю толькі ў тым мейсцы, дзе ярка проціўставіліся два сьветапагляды на самую істоту жанчыны, два разуменьні думкі дзьвёх супроцьных і выключаючых сябе ўяваў: матэрыялістычна-пазытыўнае і ідэалістычна-наіўнае.

Тып жанчыны ў беларускай літэратуры ёсьць клясава адналітым і ідэйна скрысталізаваным: калі і спаткаецца мейсцамі цень клясавага адхіленьня, то за ім-жа зараз ідзе ідэйнае вырадженьне. Інакш і быць ня можа: абставіны жыцьця беларускае жанчыны ёсьць абставінамі жыцьця пролетаркі — на вёсцы і ў горадзе гэтыя абставіны не мяняюцца; той самы злы дух стукае ў вакно, той самы адзываецца з кутоў хаты. Хто-ж зможа не падзіўляць гэроізму беларускае жанчыны, якая ў голадзе і холадзе, скатавана бядою і няшчасным сваім мужам, стаіць, як асілак, і пераможна глядзіць на супроцьніка. Гісторыя вызвальнага руху прыгнечанае мазольніцкае клясы і паднявольных народаў паказала, якім глыбока-маральным і ідэйна-сільным дзейнікам у рэвалюцыйным руху ёсьць жанчына.

Клясавая асобнасьць зусім пасьлядоўна вытварыла з беларускае жанчыны ідэйны тып асобны. Нашыя ідэалісты наіўна і непатрэбна біліся ў дыскусыі галавою аб сьцяну, клапаціліся шукаць у беларускай жанчыне загадкавага тыпу сярэдневечнае Мадонны, то йзноў тыпу жоржзандаўскае нявольніцы сямейнага ярма, або тыпу бальзакаўскага супакойнага ўміраньня, ці то золяўскае безнадзейнае жабрачкі. Усё гэта можна лёгка знайсьці ў сваёй начытанай галаве, але ніколі ў тыпе беларускае жанчыны ў беларускай літэратуры. Толькі ня трэба затрымлівацца на паўдарогі: калі гуляць—то гуляць. Быў ангелійскі сямейны раман — адтуль можна пацягнуць тыповую старонку; а ці-ж тры К (Küche, Kirche, Kinder) ідэалу нямецкага бюргэрства ня можна перацягнуць пад родную страху — зусім лёгка; няцяжка таксама і Ібсэна абабраць і ад яго можна нешта прынесьці і ўбраць Мадонну сваей уявы; кончыць трэба Фрыдрыхам Ніцшам і разам з ягоным Заратустраю сказаць: „калі йдзеш да жанчыны — не забывайся ўзяць біч". Усё можна і ўсё лёгка. Пабыўшы, скажам, у пражскім унівэрсытэце пяць гадоў, дзе вучаць добра чытаць і чытаць добрую літэратуру, зусім лёгка кідацца вобразамі і ідэаламі ня толькі жанчыны, але чалавецтва ў цэласьці. Гэтак і робяць нашыя наіўныя ідэалісты: адным зварушэньнем вуснаў выходзіць у іх беларуская жанчына адзін раз хлебасолкаю, а другі раз Афрасіняю Полацкаю. Разумей — як хочаш.

З адналітасьці соцыяльна-нацыянальнага прыгнечаньня, з клясавай адналітасьці вытварыўся рэвалюцыйна-ідэйны тып беларускае жанчыны рэвалюцыйная ідэйнасьць заўсёды тут караніцца ў разуменьні жудаснай сапраўднасьці. Рэвалюцыйны тып Цёткі, які ведаем з гісторыі нашага вызвальнага руху, мае сваё адбіцьцё ў кожнай вёсцы — толькі ў розных формах, залежна ад ступені разьвіцьця і разуменьня. Аснова адна — толькі размер разуменьня розны. Вось чаму гэтак міла часта спатыкаем у нас адналітасьць бязхлебнай, малазямельнай сялянкі, падвальнай гарадзкой работніцы і беднай беларускай студэнткі Гэтая адналітасьць ёсьць асноваю для будучае перамогі, у якой беларуская жанчына не астанецца схаванаю і няведамаю.

Рэальна-прыгожая літэратура ня можа абманываць чытача уяўнаю вобразнасьцяю. Бо й хто-ж, сапраўды, не сьмяяўся-б з пісьменьніка, калі-б ён нам даў выдуманую Дульчынэю пад імем беларускае жанчыны? Усе мы ўжо столькі разоў сьмяяліся з Дон-Кіхота; але чаму некаторыя хочуць з беларускага пісьменьніка рабіць якраз гэтакага самага нешчасьлівага абсьмешніка? Калі нават Бэатрычэ з „Бос. Кам." ёсьць сучаснаю аўтару дзяўчынаю; Маргарыта з „Фаўста" ёсьць немкаю з канца XVIII сталецьця; Тацяна з „Евг. Онег." і Наташа Ростова з „Войны и Мира" ёсьць расейскімі „дворянкамі" з першых гадоў XIX-га стагодзьдзя — чаму ад беларускага пісьменьніка вымагаецца пісаць аб сучаснай яму беларускай жанчыне, пролетарцы і рэволюцыянэрцы, вобразамі, ідэаламі і стылем з Арабскіх казкаў?

Можна было для Дантэ, можна для Сэрвантэса, Гётэ, Пушкіна, Толстога — толькі няможна для сучаснага беларускага пісьменьніка пісаць аб сучаснай беларускай жанчыне так, якою яна ёсьць — пролетаркаю і рэволюцыянэркаю. І гэта ўсё дзеля таго, што аднаму беларуская жанчына здаецца Афрасіняю Полацкаю, а другому—хлебасолкаю. Але, ці-ж беларускі пісьменьнік вінен, што некалькі дыплёмаваных беларусаў зачыталіся ў жыцьці „сьвятых", а другіх некалькі глядзяць

на беларускую жанчыну праз прызму гогалеўскіх „Старосв. помещ".? Праўда, жывем у часе, калі сіла „покровительствует" гэтакім поглядам: няўжо і ў галіне прыгожага пісьменства няможна абыйсьціся без лояльных „премудростей"?

Беларускі пісьменьнік пойдзе сваім творчым шляхам, а ягоны гэрой — беларуская жанчына, пролетарка і рэволюцыянэрка, астанецца дарагім ідэйным тыпам для кожнага працоўнага беларуса.

Андрэй Жак.

# Культурная хроніка.

Вечар Цёткі. У суботу 17-га лістапада Беларускі Студэнскі Саюз зладзіў вечар Цёткі. Ну і вечар. Цётка ў магіле саромілася за беларускае студэнства ў Вільні. Мы ад сябе толькі скажам — адзін жах. Наша рэволюцыянэрка з 1905 году, тая Цётка, якая казала беларускаму працоўнаму люду: работнік, парабак і салдат дасьць вам свабоду і ўладу — гэтая Цётка вісела на сьцяне на нейкім чорна-клетачным кіліме. Над партрэтам Цёткі маладыя абскуранты павесілі крыж. Аб чырвоным сьцягу, з якім у руцэ памёрла Цётка, нават спаміну не было. Творы Цёткі рэцытавалі — правінцыянальны інквізытар і псаломшчык. Няведама толькі, якім спосабам папала туды з рэфэратам Марыся Мілючанка?

Няшчасныя беларускія студэнты. Нават кс. Вінцук Гадлеўскі ёсьць больш паступовым чалавекам, чымсь нашыя маладыя абскуранты. І гэта ўсё называецца — беларускім студэнствам... Яшчэ вернемся да гэтае тэмы.

* * *

Рэфэрат М. Пяцюкевіча. У нядзелю 18 лістапада абсальвэнт гуманістыкі, Мар'ян Пяцюкевіч, прачытаў вельмі цікавы рэфэрат на тэму: „Марксістскія мэтады ў этнаграфічных досьледах у СССР". Пяцюкевіч сабраў шмат матэрыялу і зусім безстаронна падаў яго для слухачоў. З рэфэрату ўсе даведаліся, як шмат зроблена савецкімі вучонымі ў галіне этнаграфіі і якім высока цэнным ёсьць марксістскі мэтад дасьледываньня. Рэфэрат Пяцюкевіча не спадабаўся толькі аднаму магістру права... Калі Бісмарку не падабалася Аўстрыя і Францыя, то ён пайшоў і разьбіў іх. Можа і пан магістар права ўзброіцца у „навуковыя доказы" і махнець на савецкіх вучоных. А ну-ж Вэрсаль усьмяхнецца...

* * *

Угодкі сьмерці Першукевіча. Дня 4-га сьнежня м.г. мінуў год, як памёр сябра Т-ва Беларускае Школы, студэнт віленскага ўнівэрсытэту — Пётра Першукевіч. Сьмерць Першукевіча прыйшла якраз у той час, калі Т.Б.Ш. перажывала адну з шматлікіх цяжкіх хвілінаў сваёга геройскага жыцьця. Нябошчык Пётра Першукевіч належаў да ліку тых сяброў, для якіх жыцьцё і праца Т.Б.Ш. была галоўным зьместам іхняга істнаваньня. Можа і не прыпадкова сьмерць змагла Першукевіча, якраз у тым часе, калі Т.Б.Ш. перажывала страшэнна цяжкі мамэнт — гэта быў час грамаднага адміністрацыйнага ліквідаваньня тэбэшоўскіх гуртexistоў у Беласточчыне і час, калі вораг праз сваіх нягодных чалавечкаў стараўся Т.Б.Ш. спараліжаваць у самым цэнтры — у Галоўнай Управе. Першукевіч усё гэта страшэнна балюча перажываў: ён знаў, якую цану мае для беларускіх працоўных масаў іх Т.Б.Ш. Удары па Таварыстве — былі страшэнна балючымі для Першукевіча, бо ён жыў жыцьцём Т.Б.Ш.: дзесяткі рэфэратаў, прачытаных ім у розных кутках Заходняе Беларусі выразна гавораць аб ягонай працы. Нішто Першукевіча не магло стрымаць, нішто яму не магло перашкодзіць у працы для беларускай вясковай і гарадзкой беднаты. Яго добра зналі і беластоцкія рабочыя і сяляне розных глухіх куткоў Беларусі. Першукевіч — левы незалежны радыкал, ідучы крок у крок з духам часу, добра знаў, што трэба нясьці для беднаты беларускіх гарадоў і вёскаў. Адсюль і ягоная шырокая папулярнасьць, адсюль і тая гарачая любоў, якою абкружала нябошчыка беларускае мазольніцтва.

---

Віленскі Беларускі Студэнскі Саюз зладзіў дня 4-га сьнежня м. г. вечар, пасьвячаны памяці Першукевіча, на якім сябры нябошчыка дзяліліся сваімі спамінамі аб ім. З вельмі цікавых сяброўскіх успамінаў прысутныя даведаліся аб апошніх тыднях і днях жыцьця Першукевіча. Магутна-творчым і драматычна-прыгожым быў мамэнт спаміну аднаго студэнта, калі ўміраючы ўжо Першукевіч просіць сваіх сяброў памятаць аб працы для вызваленьня беларускага мазольніцтва і забараняе, каб яго хвалілі, пасьля сьмерці, з папамі і кадзіламі. Прыкрым і нетактоўным эпізодам вечара было выступленьне з „прамовамі" дзьвюх асобаў, якія цэлае сваё жыцьцё змагаюцца з Т.Б.Ш. — гэтым найдаражэйшым скарбам нябошчыка. Паступова гэтыя людзі пачынаюць ужо трацiць пачуцьцё такту — усюды выступаюць і ўсюды гавораць — абы гаварыць.

Малады беларускі драматург, Янка Хворост, напісаў драму „На выбоінах“, у якой Першукевіч ёсьць асноваю цэнтральнага дзеяньня. Хворост сваю драму чытаў ужо на адным з літэратурных студэнскіх вечароў, а пяты акт (сьмерць Пятра) быў яшчэ раз прачытаны на вечары. Драма Хвораста мае, побач прыгожых і цэнных момэнтаў, аснаўную памылку: жыцьцё ўзята з ідэалістычна-наіўнага профілю, таму і цьвёрда-жудасная сапраўднасьць выйшла сьляпою і ойкаючаю. У свой час яшчэ вернемся да драмы Я. Хвораста.

* * *

Зʼезд пісьменьнікаў СССР. Дня 1-га верасьня м. г. скончыў сваю працу 1-шы Усесаюзны Зʼезд пісьменьнікаў Савецкага Саюзу. Зʼезд адбываўся ў Маскве. Беларускую літэратуру рэпрэзэнтавалі на Зʼезьдзе — Купала, Колас, Александровіч і Галавач. Праца Зʼезду была пільна сочана праз пісьменьнікаў усяго сьвету. Літэратура ўсяго сьвету ёсьць ідэйна падзелена на дзьве часьці: пролетарска-паступовую і буржуазна-рэакцыйную. Пролетарскія пісьменьнікі сьвету прыслалі на Зʼезд сваіх дэлегатаў і прывітаньні. Буржуазна-рэакцыйная літэратура пражывае цяпер перадсьмяротны крызыс ідэйнага і тэматычнага выраджэньня. Так ёсьць заўсёды перад сьмерцяй кожнага эканамічна-грамадзкага ладу эксплёатацыі і зьдзеку. Першы гіне творчы дух, а пасьля ўжо астаецца толькі зламаць бізун. Чэсныя і сільныя духам творцы думкі бачылі заўсёды наперад збліжаючуюся сьмерць кожнага эканамічна-палітычнага грамадзкага ладу і заўсёды ў час сыгналізавалі аб гэтым сваім суграмадзянам. Перад сьмерцяй старога, подлага і рабскага Рыму, вялікі рымскі гісторык Тацыт сьмела абвесьціў гэту канечную сьмерць і паказаў Герман цаў, як твароў новага жыцьця. Перад сьмерцяй фэодальна-касьцельнага сярэднявечча, Сэрвантэс, Вольтэр, Гольбах, Гэльвэцый і Дідро абвесьцілі канечную сьмерць гэтага нявольніцкага грамадзкага ладу і паказалі на буржуазію, як на творца новага жыцьця. У часе найвялікшай магутнасьці і росквіту буржуазіі, Маркс і Энгельс абвешчываюць канечную сьмерць гэтага паскуднага ладу зьвярынай эксплёатацыі і зьдзеку. А Ленін сваім геніяльным дзелам запачаткаваў новае соцыялістычнае жыцьцё.

Буржуазна-рэакцыйная літэратура сяньня ўжо толькі выконывае ролю гадкога паклёпніцтва: творчыя матывы ўжо памёрлі. Ідэалістычна-дробна-мяшчанскія пісьменьнікі пакідаюць гэты сьмярдзючы трупам лагер і пераходзяць на старану пролетарскае літэратуры.

Зʼезд пісьменьнікаў СССР быў падлічэньнем вялікіх дасягненьняў у прыгожым соцыялістычным пісьменьніцтве і выясьненьнем задачаў на будучыню. Задачу і шлях на будучыню, вялікі савецкі пісьменьнік, Максім Горкі, у сваёй прамове акрэсьліў гэтак: „Наперад і вышэй, гэта шлях для ўсіх нас, сябры, гэта шлях адзіны і дастойны нашай эпохі“.

* * *

Аж лягчэй стала... Ну і добра... „Шлях Моладзі“ № 12 з вялікай радасьцяй і кадзільным пахам падае сваім чытачам да ведама, што „амэрыканскія і ангельскія вучоныя дайшлі да пераканаваньня, што шэсьць тысяч гадоў таму назад чалавек ня быў больш падобны да наўпы, як цяпер“... Вось і добра: ну, ну. Бедны Дарвін... Зноў „амэрыканскія і ангельскія вучоныя“, зноў „наўпа і чалавек“. Колькі ўжо гэтых „вучоных“ было і колькі разоў яны ўжо „зьбілі“ Дарвіна? Але сягоньня ўжо цяжка, бо ня толькі прыродныя навукі прынялі Дарвінаву тэорыю — як аксіому. У такіх выпадках найлепш казаць адразу: „рымскі папеж энцыклікай такой і гэтакай зьбіў Дарвіна“. Нашто яшчэ цягаць „амэрыканскіх і ангельскіх вучоных“? Але добра ўсё-ж такі, што ўжо „зьбілі“ Дарвіна. К. Маркса даўно ўжо „змалацілі“ папежы: Лявон XIII (Rer. nov.) і Пій XI (Quadr. anno). Яшчэ асталося толькі „зьбіць“ Копэрніка, Гобса, Гольбаха, Гэльвэцыя Фоербаха і Менделеева, а тагды ўжо... гуляй эшафот. Мы толькі дзівімся, чаму сябры рэдакцыйнай калегіі „Шл. Мол.“ не атрымалі дагэтуль адзначэньня тайных шамбэлянаў гр-на Ратті?

* * *

Рэфэрат А. Смаля. Дня 1-га сьнежня м. г. студэнт віленскага унівэрсытэту, А. Смаль, прачытаў у Беларускім Студэнскім Саюзе рэфэрат на тэму: „Аб імпэрыялізьме“. Рэфэрат А. Смаля быў адным з найцікавейшых і найглыбейшых рэфэратаў якія былі ў сёлетнім школьным годзе прачытаны ў Б.С.С. А. Смаль добра падыйшоў да прычынаў сягоньняшняга крызысу ў капіталістычным сьвеце і правільна асьвятліў сілу імпэрыялізму і ягоную зьвярыную ненавісьць да СССР.

Добра было-б, каб беларускае незалежнае студэнства зʼарганізавала вялікшы цыкль рэфэратаў на актуальныя тэмы бягучага жыцьця. А. Смаль зрабіў добры пачатак. Рэфэрат Смаля страшэнна не спадабаўся „Белар. Крыніцы“ (№ 46), а гэта ўжо добрае сьвядоцтва.

* * *

70 ўгодкі І-га Інтэрнацыяналу. Дня 24-га верасьня м. г. мінула семдзесят гадоў ад часу заснаваньня І-га Інтэрнацыяналу. Гэтай слаўнай гадаўшчыне і эпохальнаму значэньню І-га работніцкага Інтэрнацыяналу пасьвяцім у наступным нумары спэцыяльную стацьцю. І-шы Інтэрнацыянал быў заснаваны гэніяльным творцом навуко-

вага социялізму — Карлам Марксам. I-шы Інтэрнацыянал працоўных слаўна памёр на барыкадах Парыжскай Комуны.

* * *

У нашым унівэрсытэце. У беларускім дзяржаўным унівэрсытэце ў Менску на пачатку гэтага школьнага году адбылася вялікая урачыстасьць адкрыцьця гістарычнага факультэту. На катэдры гісторыі пакліканы найлепшыя гісторыкі з Беларускай Рэспублікі і некалькі асобаў з Саюзу.

* * *

Цэнная кніга. Маскоўскае выдавецтва ГИХЛ выдала ў мінулым годзе вялікую і дужа цэнную кнігу пад назовам: „Антология белорусской литературы". Літэратурныя творы беларускіх песьняроў і пісьменьнікаў перакладзены на расейскую мову найлепшымі расейскімі літэратурнымі працаўнікамі. З мастацкага боку кніга выдана надзвычайна прыгожа.

* * *

Выстаўка абразоў Пётры Сергіевіча. У хуткім часе адбудзецца ў Вільні выстаўка абразоў маладога беларускага мастака, Пётры Сергіевіча. Аб выстаўцы і аб мастацкай творчасьці П. Сергіевіча зьмесьцім у свой час у „Крыгаломе" статцьцю, у якой выкажам ролю мастацтва ў социяльна-нацыянальных вызвальных рухах.

* * *

Ня сьмійся! Рэдактар беларускага радыкальна-гумарыстычнага двутыднёвіка „АСВА" — студэнт віленскага унівэрсытэту, Пётра Радзюк, засуджаны на тры месяцы турмы, трыста залатых кары і аплаціць, апрача гэтага, справы суду. Да суду П. Радзюк сядзеў пяць месяцаў, якіх суд не залічыў. Апрача гэтага рыхтуюць Радзюку яшчэ, адну справу за „Асву". Без комэнтарыяў.

* * *

Песьняры ўсяго сьвету аб Леніне. У мінулым годзе выйшла ў Маскве анталёгія песьнярскіх твораў аб Леніне. У гэтай кнізе сабраны ўсе вершы, якія аб Леніне былі напісаны на ўсенькім сьвеце. Кніга называецца: „Поэты мира о Ленине".

Нарэшце. Дня 17 кастрычніка м. г., пратрымаўшы два гады ў спэцроці, звольнілі нарэшце на свабоду Франука Грышкевіча.

* * *

* * *

Заклік! Кожная, найменшая ахвяря на „КРЫГАЛОМ" паможа нашай часопісі выходзіць кожнага месяца. Беларуская працоўная моладзь павінна шчыра заапекавацца „Крыгаломам" — памятаючы, што наша супольная часопісь—гэта адзінае вакно ў культурны сьвет.

* * *

Шчырая падзяка. Усім тым сяброўкам і сябрам, якія памагалі нам у зьбіраньні ахвяраў на выданьне „Крыгалому", за іхнюю ахвярную працу шчыра дзякуем і просім у будучыні не забываць і памагаць для далейшага выдаваньня часопісі.

Страх духовы ёсьць падлейшы, як страх фізычны.

*Сынклер.*

# *Ад рэдакцыі.*

*Заклікаем усіх грамадзян Зах. Беларусі, у першую чаргу моладзь з яе авангардам — пісьменьнікамі - самародкамі, падтрымаць нас матэр'яльна, дапамагчы ў вялікай справе пачатай намі работы. Кожны пісьменьнік - саматужнік павінен зьяўляцца гарачым кольпартэрам нашай часопісі. Верым, што надзеі, паложаныя на іх, збудуцца.*

Выдавец і рэдактар: ЮРЫ КЭПЭЛЬ. Друк. Каапэратывы Вытв. Гандлёвай. Вільня, Троцка 7.